 

# БЕЛЬСКАЕ ВАЛАКНО



**Ян Навіцкі ад 1953 года працуе дырэктарам бельскай рашарні. Ён высока цэніць працу свайго калектыва.**

Традыцыя вырошчвання ільну на Бельшчыне ці Гайнаўшчыне немалая. Вырошчвалі яго за цара-бацюшкі, за санацыі, вырошчваюць і зараз. Калісьці, відома, лён меў зусім іншае прызначэнне, чым цяпер. З ільну была кашуля, пасцель, сукенка — словам, уся вопратка жыхара вёскі. Цяпер гэтага ніхто сам не выконвае. Закінуты і прылады да апрацоўкі ільну. Яны стаюцца музейнымі забыткамі. Але ільну сяляне Бельшчыны і Гайнаўшчыны вырошчваюць непараўнальна больш, чым калісьці. Апрацоўвае яго бельская рашарня.

* * *

Бельская рашарня — адно з найбольшых прадпрыемстваў Бельшчыны. Зараз у ёй пры апрацоўцы ільну працуе звыш 500 асоб. Прадпрыемства зусім новае, пабудаванае за гады народнай улады. Рабочыя рашарні — гэта ў большасці былыя сяляне з аколіц Бельска і Гайнаўскага павета.

— Гэтымі людзьмі, — гаворыць дырэктар рашарні Ян Навіцкі, — мы найбольш задаволены. Працавітыя яны і дысцыплінаваныя. У выканаўстве планаў кіраўніцтва рашарні можа на іх заўсёды разлічваць. Не падвядуць.

Рашарня штогод скупляе ад сялян каля 10 тысяч тон ільнянай саломы. Каб атрымаць такую яе колькасць, рашарня праводзіць кантрактацыю ільну на плошчы каля 4-рох тысяч гектараў. У самым толькі Бельскім павеце сяляне вырошчваюць і кантрактуюць лён на плошчы 2-х тысяч 200 гектараў.

Найбольш вырошчваюць ільну ў грамадах Пілікі, Аўгустова і Лубін Касцельны. Такія ільнаводы, як члены спулдзельні прадукцыйнай у Крывой (штогод кантрактуюць лён на плошчы 20-ці га) або Рыгор Ручай і Уладзімір Сідорскі з Пілік ці Аляксей Анішчук і Антон Перавой з Агароднік, відомыя ва ўсім павеце вырошчваннем высокага, стройнага ільну. Яны з'яўляюцца безупыннымі дастаўцамі бельскай рашарні ад 10-ці год. Вельмі добра развіваецца кантрактацыя ільну ў вёсцы Чыжы, Гайнаўскага павета. На Гайнаўшчыне вырошчваюць 400 гектараў ільну. Амаль палову гэтай колькасці вырошчваюць жыхары Чыжоў.

Лён вельмі карысная і дахадовая расліна. Даглядзіш яе, падсыплеш адпаведных угнаенняў, дык збярэш з гектара набат 30 цэнтнераў ільнянай саломы. За адзін цэнтнер саломы (адзернёнай) па залічэнні яе ў першы гатунак, рашарня плоціць 360 зл. Апрача гэтага, за кожны цэнтнер ільнянога насення плантатар атрымоўвае 800 зл. Да гэтага яшчэ даходзіць грашовая прэмія за добры гатунак, за давоз. Плошча зямлі, на якой закантрактаваны лён, звольнена ад нарыхтовак. Значыць, дзяржава стварыла вельмі добрыя ўмовы, каб усё больш развіваць вырошчванне гэтай карыснай расліны.

А што дзеецца з завезеным у рашарню ільном? Ён тут праходзіць цэлы прадукцыйны цыкл.

4 кіламетры ад Бельска ў вёсцы Аўгустова рашарня мае сваю базу. Тут і пачынаецца ўступная апрацоўка ільну. Прывезеную салому прапускаюць праз т.зв. «адзернярку». Салома, як звычай, бывае дрэнна вымалачана. Менавіта ў гэтых машынах яна пазбываецца апошніх зернятак ільну. Абмалочаную салому вывозяць у поле і складаюць у стагі. Нялёгка ўлажыць такі стог велічынёй трохпавярховага дома. Але ад чаго ж спецыялісты? Найлепшымі майстрамі па ўкладанню стагоў-гігантаў з'яўляюцца Пятро Пячынскі і Васіль Жукоўскі з Пілік, а таксама Васіль Пашкоўскі з Бельска. Стог, які яны ложаць (у такі стог змяшчаецца каля 200 тон саломы) можа стаяць гадамі. Не развaліцца. На другі год гэтую салому завозяць у рашарнічыя басейны. Пасля 5-ці дзён, калі салома добра вымакне і аддзеліцца валакно ад дрэва, яе вывозяць на поле, дзе сохне некалькі дзён. У такі час дзесяткі гектараў поля пад Бельскам застаўлены характэрнымі кучкамі. Лён сохне. Абсохлы лён звозіцца ў велізарныя стадолы, дзе абавязкова не менш чым месяц часу ён павінен адляжаць. Толькі пасля ўсіх гэтых уступных прац лён дастаўляецца на канкрэтную прадукцыю.

Сэрцам рашарні з'яўляюцца два камплекты апрацовачных машын, так званыя турбінавыя камплекты. З аднаго канца

(Працяг на стар. 5)



**Укладка стага-гіганта.**

## З жыцця БГКТ

# Беларускі фэст у Талькоўшчыне

Асенні дзень не выдаўся добрым. Над аколіцай павіслі шэрыя, алавяныя хмуры. Марушыў дождж. Холадна. Нягледзячы на гэта, людзі ў святочным настроі. У Талькоўшчыне — беларускае свята. Як не кажы, а ўсё ж для жыхароў закінутых у лясной глушы вёсак мерапрыемствы павятовага маштабу — культурны фэст — нештодзённая з'ява. Таму ў нядзельную раніцу 30 верасня ў Талькоўшчыну збіраліся людзі.

Прышлі жыхары трох Астраўоў, Казловага Лугу, Лазняў, Сакалды, Борак, а нават з Навасёлак, што ў Беластоцкім павеце. Шкада толькі, што мясцовая школа не змагла змясціць і палову прысутных. Кожнаму ж хацелася пабачыць, што падрыхтавала праўленне сакольскага аддзела БГКТ.

Фэст адкрыў кіраўнік мясцовай школы, адзначаючы што сённяшняя ўрачыстасць — гэта пачатак праўдзення культурна - асветнага года на Сакольшчыне. Затым выступіў з дакладам на тэму дзейнасці БГКТ Уладзіслаў Артэмюк.

Афіцыйная частка закончана. На часовай сцэне паяўляюцца артысты-самадзейнікі з Новага Вострава. У іх пастаноўцы п'еса Галубка «Суд». Гарачымі воплескамі ўспрымаюць прысутныя паасобныя фрагменты п'есы і ў асаблівасці ігру Віталія Байгуса ў ролі стоража. Пасля п'есы ў школе гучаць родныя песні, вясёлыя анекдоты, сатыра ў добрым выкананні новаастраўскіх самадзейнікаў. Пасля іх на сцэне паяўляецца папулярная «Лявоніха». Горача ўспрымаюць прысутныя вядомую тут кожнаму эстраду. Варта падкрэсліць, што калектыў «Лявоніхі» ў сувязі з беларускім фэстам, пастанавіў даць канцэрт грамадскім чынам, без ніякай аплаты з боку насельніцтва. Зважыўшы, што ў гэты дзень артысты «Лявоніхі» мелі аж тры канцэрты і, нягледзячы на стому, пастанавілі даць канцэрт грамадскім чынам, за іх ахвярнасць і добрую паставу належацца ім словы шчырай падзякі.

У перапынках артыстычнай часткі выступіў з дэкламацыяй беларускіх вершаў папулярны на ўсю тутэйшую аколіцу дзядзька Якуб Куршэль з Сукавіч.

Пасля мастацкіх выступленняў была наладжана танцавальная вечарына. Іграў знаны на Сакольшчыне аркестр Павятовага дома культуры. Свята працягвалася да позніх гадзін ночы.

*

За апошні час праўленне павятовага аддзела БГКТ у Саколцы патрапіла нав'язаць супрацоўніцтва з шэрагам грамадскіх і палітычных арганізацый. Менавіта беларускі фэст у Талькоўшчыне аддзел БГКТ арганізаваў супольна з павятовым праўленнем ЛОК і павятовым праўленнем ЗМВ. Карысная гэта супрацоўніцтва і вынікі відавочныя. Варта яго пашыраць. І яшчэ адно: за добрую падрыхтоўку фэста словы падзякі належацца інструктару ГП БГКТ Янку Беразаўцу, адказнаму за працу Сакольскага аддзела.

**В. Баршчэўскі**

---

знішчэннем аднаго справе не паможаш. Хутчэй назад, каб выратавацца, дабрацца да найбліжэйшага гарнізона, выклікаць дапамогу!..

І Торп, павярнуўшы назад, пабег да сваёй машыны. Усюдыход рушыў наперад. На ходзе Торп адчыніў дзверцы і выкінуў з кабіны цела палкоўніка Рыбіна.

Мінутай пазней да аўтамабіля Упіца прыбег Керымаў, пад'ехаў грузавік Перцава.

— Упіц, — сказаў Аскер, цяжка дыхаючы і паказваючы рукой у поле. — Узяць!

Педцаў кіўнуў.

— Потым вядзі калону. Мине не чакаць, ясна?

— Ясна.

Аскер сеў за руль, уключыў матор.

Усюдыход не мог саперніцаць з хуткасным «Мерседэсам». Аскер дагнаў Торпа. Той прыкмеціў пагоню. Спрабуючы скрыцца, звярнуў з магістральнай шашы. Аднак праследвальнік разгадаў манеўр. Неўзабаве быў ён амаль побач. Тады запаліліся фары «Мерседэса». Торп апынуўся ў патоку святла. Аскер выразна яго бачыў.

Машыны ішлі быццам звязаныя вяроўкай. Торп павярнуўся. Жмурачыся ад нясцерпнага святла, выцягнуў назад руку. На ветравым шкле «Мерседэса» з'явіліся дзіркі. Аскер ускінуў пісталет. У той жа момант Торп зноў выстраліў. Пісталет вырвала з рукі Аскера, адкінула назад. Выпадковае трапленне ў зброю — і ён стаў абяззброеным.

А Торп працягваў страляць. Нізка прыгнуўшыся да руля, Аскер лічыў выстралы. «Сем, — падумаў



ён з палёгкай, калі выстралы змоўклі. — Значыць, увесь магазін».

Аскер на секунду выпрастаўся і ўбачыў: Торп шнырыць рукой недзе па сядзенні ці ля дошкі прыладаў. Відавочна, уключае перадатчык, або перазараджвае пісталет. Гэтага нельга дапусціць! І ён да адказу націснуў нагою педаль. Аўтамабіль ірвануўся наперад, узяў крыху лявей. Машыны зраўняліся, а затым «Мерседэс» на паўкорпуса абышоў усюдыход. Тады Аскер падаў управа. Торп абедзвюма рукамі ўчапіўся ў руль і таксама ўзяў правей, каб пазбегнуць сутыкнення. Аб пісталеце ён ужо не думаў. Зноў паварот руля «Мерседэса», і аўтамабіль Торпа аказаўся на абочыне! Перакрыўшы яму дарогу, Аскер выскачыў з кабіны. Насустрач яму кінуўся Торп, на хаду заганяючы ў пісталет новы магазін.

— Стаяць! — закрычаў Торп высокім голасам.

Далейшае адбылося ў долі секунды. Аскер усім целам адкінуўся назад, падаючы, сагнуў нагу ў калене, рэзка выкінуў наперад другую і ўдарам чаравіка выбіў зброю з рук Торпа. Гітлеравец выхапіў нож, кінуў у праціўніка. Удар прыйшоўся ў левае сцягно. І тут жа на Аскера наваліўся Торп.

Абое маладыя, сільныя, яны качаліся па зямлі, сціскаючы адзін другога ў абдымках, наносячы кароткія ўдары рукамі, галавой, каленямі. Аскер, у сцягне якога ўсё яшчэ сядзеў нож, адчуваў страшэнны боль. Цяжка дыхаючы, ён намагаўся скінуць фашыста, які ўсё мацней падмінаў яго пад сябе. Аскер ірвануўся, адчуў прарэзлівы боль — і



адразу зрабілася лягчэй: у запале бойкі Торп, зачапіўшы нагою нож, вывярнуў яго з раны.

Аскер напружыўся, выслабаніў правы локаць і нанёс ім рэзкі ўдар у твар гітлераўцу. Торп адказаў ударам галавы і разбіў Аскеру губу. Рука Торпа каўзанула на зямлю і намацала пісталет. Са скрыўленым ад натугі тварам, Торп стараўся перамагчы супраціўленне праціўніка, накіраваць у яго пісталет. Але ў Аскера была перавага: рука яго абапіралася аб зямлю, локаць жа Торпа вісеў у паветры. І вось памалу, вельмі памалу ствол зброі павярнуўся ў бок Торпа.

— А-а!.. — выў гітлеравец, поўзаючы па зямлі.

Аскер, сціснуўшы зубы, увабраўшы галаву ў плечы, працягваў ціснуць на руку ворага. Яшчэ намаганне, і ствол маўзера ўпёрся ў грудзі Торпа. На імгненне Аскер заглянуў у вочы фашыста. У іх бушавала нянавісць. Не, такія літасці не просяць!

І ён, злаўчыўшыся, націснуў на спуск.

Выстрал быццам падкінуў Торпа. Рука, у якой ён трымаў зброю, расслабла.

Хістаючыся ад слабасці, Аскер стаў на карачкі, падняўся, ступіў на параненую нагу. І тут жа ўпаў, страціўшы прытомнасць.

**(Працяг за тыдзень)**





 

 

## Аднаўляецца асада

Асада Нараўка пачала маладзець. Будуюцца тут прыгожыя жылыя дамы, тры новыя сучасныя крамы. Адрамантавана і зараз даволі прыгожа выглядае сталовая-гаспода. Да яе цяпер прыемна зайсці і з'есці абед. Будынак праўлення гміннай спулдзельні ўпрыгожвае вуліцу. Ён прасторны, светлы, выгадны да працы. Многія павятовыя ўстановы, а ў тым ліку і ПЗГС-ы, не маюць такіх будынкаў і такіх добрых умоў да працы, як нараўкаўскі ГС.

Сядзіба прэзідыума грамадскай рады нарадовай знаходзіцца хаця ў драўляным, але таксама ў даволі выгадным, прасторным памяшканні. Асабліва хочацца падкрэсліць прыгожую мэбліроўку і густоўнасць пакоя цывільных шлюбаў. Тут сапраўды прыемна маладажонам. І не толькі маладажонам.

І яшчэ адна асаблівая якасць упрыгожвае прэзідыум ГРН у Нараўцы: ветлівасць і беспасрэднасць да людзей з боку працаўнікоў прэзідыума. Менавіта ветлівасці да наведвальнікаў — сялян вельмі часта не хапае ў многіх радах нарадовых.

Да гэтага часу нараўкаўскаму пункту аховы здароўя надта былі патрэбны зубныя лекары. Дзякуючы намаганням прэзідыума ГРН прыехалі ў Нараўку два стаматолагі і нядаўна распачалі там працу. А гэта для Нараўкі і ўсёй яе аколіцы даволі важная справа.

м.х.

(Працяг са стар. 2)

## Слядамі Каперніка

Усіленне радыёпрамення ў Сонца, якое даходзіць часам да мільёнаў разоў, мае сувязь са станам зямной іанасферы і магнітнага поля Зямлі, а таксама магчыма, што і са станам пагоды на Зямлі.

### МАРЫ І... КАПЕРНІК

Праект будовы Цэнтральнай Астранамічнай Абсерваторыі прадугледжвае закуп двух асноўных прыбораў: тэлескопа Шмідта і парабалічнага рэфлектара дыяметрам у 2 метры (найбольшы тэлескоп гэтага тыпу дыяметрам 5 метраў устаноўлены ў Мон-Даламары). Закуп тэлескопа Шмідта быў першым этапам рэалізацыі гэтага праекта. Калі надыйдзе другі этап — яшчэ невядома. Вядома адно: устаноўка двухметровага рэфлектара працягнецца 8 год, а ён яшчэ нават не заказаны.

Астраномы мараць аб тым, каб Цэнтральная Абсерваторыя была гатова перад 500 гадавінай нараджэння Каперніка, якая будзе адзначацца ў 1973 годзе, г. зн. за 10 год. Засталося зусім мала часу.

**Ганна Левандоўская**

## ЛЯЧЫЦЦА КАЛІ І НЕ БАЛІЦЬ

Здаровыя зубы — залог моцнага здароўя. Гэта ісціна бясспрэчная. Таму кожны чалавек павінен захоўваць элементарныя правілы догляду зубоў, ведаць прычыны іх захворвання, часцей звяртацца да стаматолага.

Значэнне зубоў для арганізма велізарнае. На жаль, зубы чалавека вельмі часта падвяргаюцца захворванням і ў першую чаргу становяцца ахвярай карыеса. Карыес паражае цвёрдыя тканкі зуба і мае складаны паталагічны працэс, які знаходзіцца ў цеснай сувязі з унутраным станам арганізма. Існуе таксама рад вонкавых прычын, якія садзейнічаюць паяўленню карыеса. Да ўнутраных прычын адносіцца стан цэнтральнай нервовай сістэмы, парушэнні абмену рэчываў, змяненні функцый унутранай секрэцыі, інфекцыйныя захворванні, недахоп вітамінаў і г.д. Вонкавымі фактарамі можна назваць тэмпературныя, хімічныя і біялагічныя ўплывы, недахоп сонечнага апраменьвання, чыстага паветра і г.д.

Асабліва адчувальныя да гэтага захворвання дзеці, моладзь. Паводле статыстычных даных, у капіталістычных краінах Заходняй Еўропы і ЗША карыесам паражаецца 98—100 працэнтаў насельніцтва. У СССР гэты працэнт вагаецца ад 70 да 90.

Вывучэннем карыеса займаюцца цяпер многія вучоныя: стаматолагі, біяхімікі, бактэрыёлагі і іншыя спецыялісты. Атрыман карыес зубоў у доследах над жывёламі. У выніку эксперыментальных даследванняў і назіранняў стала вядома, што карыёзны працэс пачынаецца не адразу, а праходзіць падрыхтоўчую фазу. Пры гэтым адбываецца паступовае збядненне цвёрдых тканак зуба мінеральнымі солямі і бялкамі, змяняецца іх хімічны састаў. Многія з гэтых працэсаў застаюцца пакуль што няўлоўнымі для даследчыка.

Калі прычына карыеса застаецца недастаткова вывучанай, то характар яго нам добра вядомы. Спачатку з'яўляецца белая пляма ў зубных тканках. Структура і цвёрдасць эмаліі ў выніку змянення бялковых часцінак парушаецца. На паражоныя ўчасткі эмалі трапляюць мікробы, якія адкладваюць пігмент. Зуб у гэтым месцы робіцца буры ці карычневы.

У розных людзей карыес працякае па-рознаму. У адных (часцей за ўсё ў слабых здароўем і цяжарных жанчын) ён працякае востра, хутка распаўсюджваецца. У моцных, здаровых людзей ён развіваецца павольна, часам надоўга спыняецца ў сваім развіцці. Але як у адным, так і ў другім выпадку, калі своечасова не лячыць карыес, ён распаўсюджваецца далей, усё больш і больш разбурае зуб, выклікае пульпіт. Хворы адчувае вострыя боль і вымушаны звярнуцца да ўрача. Але часам ужо бывае позна. Нельга дапускаць зуб да такога становішча, трэба звяртацца да стаматолага пры першых прыкметах карыеса.

На сённяшні дзень адзіным метадам лячэння карыеса ў самым пачатку з'яўляецца пламбіраванне. Але, на жаль, не ўсюды яшчэ людзі звяртаюцца да яго, чакаюць пакуль боль робіцца невыносны, а зуб зусім разбураецца.

Такім чынам, мы трацім шмат часу на «тушэнне пажару», замест таго, каб папярэдзіць яго. Карыёзны зуб у пачатку хваробы можна вылечыць за 20 мінут. Калі ж хвароба зацягнецца, то спатрэбіцца значна больш часу.

Своечасовая прафілактыка поласці рота папярэджвае паражэнне зубоў карыесам, у вялікай ступені змяншае магчымасць захворвання на раўматызм, язву страўніка, хваробу сэрца, нырак і г.д. У большасці выпадкаў мы самі вінаваты ў сваіх хваробах, таму што кіруемся прынцыпам «навошта лячыцца, калі не баліць». Гэта няправільны прынцып.

К. Б.

**Ці ж вы не ведаеце, што сапраўднае шчасце заключаецца ў тым, што ўсе людзі патрабуюць адзін другога і што вы чакаеце дапамогі ад сябе падобных роўна так, як яны чакаюць яе ад вас.**

**Дэні Дзідро** (1713—1784) — вядомы французскі філосаф - матэрыяліст.

# БЕЛЬСКАЕ ВАЛАКНО

(Працяг са стар. 3)



**Ніна Антанюк некалькі год таму назад выехала з роднай вёскі Рудка на Гайнаўшчыне. Зараз яна перадавая работніца падрыхтоўчай базы бельскай рашарні.**

камплекта пускаюцца снапкі ільняной саломы, а з другога выходзіць чысценькае, залацістае валакно. Адходы, якія застануцца ў час гэтага прадукцыйнага цыкла, яшчэ раз машынова перапрацоўваюцца на пакулле. А што робіцца з каростай, якой калісьці нашыя бабулі падсцілалі жывёлу? Не, яна не марнуецца. Кароста — гэта высакаякасны будаўнічы і мэблярскі матэрыял. Даўжэйшы час бельская рашарня экспартавала каросту за граніцу. Зараз у нашай краіне ўжо пабудавана некалькі фабрык, якія перапрацоўваюць каросту на будаўнічыя пліткі. Між іншым пабудавана такая фабрыка ў Шчытне. Кароста з бельскай рашарні будзе перапрацоўвацца на гэтай фабрыцы.

А бельскае валакно вандруе на тэкстыльныя фабрыкі Жырардова, Бельска-Бялай, Чанстаховы, Валбжыха ці Люблінца, дзе з яго вырабляюць шэраг матэрыялаў дэкарацыйнага характару, прыгожыя льняныя абрусы, сарвэты і інш.

Пакуллем бельскай рашарні цікавіцца Англія, Бельгія, Італія, Заходняя Германія і другія краіны. За пакулле атрымоўваем цэнныя дэвізы.

* ✲ *

Варта адзначыць, што бельская рашарня, дзякуючы адданай працы ўсяго калектыва, займае адно з перадавых месц у ільноапрацоўчай прамысловасці краіны. Яна пастаянна перавыконвае прадукцыйныя планы, а ў 1955 г. заняла першае месца ў краіне ў сацыялістычным спаборніцтве.

**В. БАРШЧЭЎСКІ**



**Твор мастака абстракцыяніста? Не, гэта будаўнічыя пліткі з каросты бельскай рашарні.**

Фота: **В. Рудчык**

# МІЛЕЙЧЫЦКАЯ МАЗАІКА

Паспрабуй зайсці на пошту ў Мілейчыцах і размаўляць па тэлефоне. За мінуты растрачаныя на размову, заплаціш паводле тарыфы, але ці дагаворышся — наўрад. У слухаўцы пачуеш сімфанічную музыку або спеў Славы Пшыбыльскай. І толькі дзесьці вельмі далёка-далёка, час ад часу, дойдзе да цябе трывожнае «алё!» таго з кім хочаш пагаварыць. Злуешся ў тэлефоннай будцы, крычыш да няшчаснай мембраны... У адказ табе радыёкарэспандэнт спакойна паведамляе: «Учора канцлер Адэнауэр меў сакрэтную размову з прэзідэнтам дэ Голем»...

*

Ідзеш да мілейчыцкай гасподы перакусіць.

— Абед ужо-ужо даварваецца, — пацяшаюць у кухні і прапануюць порцыю шынкі. Каб не нудзілася...

Лёгка сказаць: паешце шынкі. Яе трэба рваць зубамі і пры тым зусім здзічэеш. Бо што рванеш, то аж у носе засвідруе ад брыдкага паху. Гандляроў я «пахваліў» на месцы за гэтакі пачастунак. Мяснікоў «пахваліць» не прышлося: за гарэлкаю не маюць часу на «пустыя гутаркі». Іхні новы шэф аблівае аванс, а стары — дзесяцітысячныя страты. Каўбас не каштаваў, яшчэ не нарабілі.

Кажуць, мой жывот не зварыў бы іх. Чаму? Мілейчане ўхіліліся ад простага адказу і расказалі мне мясцовы анекдот: што патрэбна, каб зрабіць каўбасу? Патрэбна — вада, соль, тлушч. Мяса не абавязкова, не.

Ясна!?

*

Пабочнаму чалавеку здаецца, што народ у Мілейчыцах мала энергічны, сонны. Няпраўда, не ўсе. Вось Іван Міхноўскі бяжыць да грамадскай рады. Адной рукою ён трымаецца за бок, кульгае. Направа ды налева і кожнаму асобна тлумачыць, што Ольга Высоцкая нашпарыла яго ў карк і ў спіну, і па назе набіла. Ледзь пугаю адагнаўся ад яе. «Я б ёй даў, каб суда не баяўся!» — лямантуе ён ужо перад змучаным абліччам грамадскага сакратара.

У чым справа?

Такія сенсацыі ў Мілейчыцах не навіна. Гаспадары крадком аруць палявыя дарогі і, калі настане сяўба, на палосках даходзіць да фармальных бітваў (з каменем у руцэ!). Пачынаецца ад таго, што ранкам гаспадар вывозіць у поле гной і са здзіўленнем заўважае, што дарога да ягонага палетка сёння ўжо не дарога, а дарожка, сцежка. Воз не месціцца. Едзе папалам, па чужым пасеве, конь топча рунь... Не бачыць, як ззаду даганяюць яго сусед з кучай сваякоў...

*

Ля крам з сельскагаспадарчымі таварамі і машынамі збор фурманак. Стаяць вянком. Пасярэдзіне пажарніцкі басейн, абгароджаны жалезнымі прутамі. Зрэшты, каму жалезныя яны, а каму і не... Напрыклад, каню, увязанаму да іх. Моцная звярына, раздругі турзане і з прутоў застаецца адно звалішча выкрутасаў; нават слупікі з бетонам угору «падрастаюць», вылазяць наверх, быццам разынкі з цеста.

Ляпей не думаць, што тут рабілася б на выпадак неспадзяванага пажару...

*

Раз размова аб водных справах зайшла, дык выпадае ўспамянуць і пра лазню, якая мае гарантаваць чысціню цела і здароўе мнагалікага мілейчыцкага люду. Нарэшце ёсць тэхнічная дакументацыя і, мабыць, салідная яна, бо аж пару год рабілі гэтых некалькі «тыповых малюнкаў». Людзі справядліва ацанілі патрэбу такога аб'екта ў мястэчку дваццатага стагоддзя і рушылі да чыну — бо каму ж ахвота хляпацца па суботах над міскаю (раздзетым усяго да пояса). Грамадскім чынам навазілі жвіру, павазілі цэглу і гатовыя яшчэ тысячу «чорных» работ прыняць на свае плечы. Улады гэтак жа намагаліся, бойка расстараліся плачам, шумам сотню — другую тысяч злотых, каб толькі хутчэй, каб хоць перад навагоднім балем пабыць у ванне.

Будова ніяк не рушыла наперад. Няма цэменту. Няма! Чаго добрага, каб хоць грошы не прапалі ў другім годзе. Нявыкарыстаныя ляжаць!

Восень ужо ў разгары: праз месяц прымаразкі могуць усур'ёз прымарозіць зямлю, не выкапаеш фундаментаў.

Запытанне: у якім годзе намечана ўрачыстае адкрыццё лазні ў Мілейчыцах, што ў Сямяціцкім павеце?

(ся)



 

 

# 50 тысяч сямейных радасцей




Па вялікай тэрыторыі паміж Маскоўскай шашой і вуліцай Якуба Коласа ў сталіцы Беларускай ССР — Мінску адзін за другім закладаюцца фундаменты шматпавярховых жыллёвых дамоў. У бліжэйшыя гады тут узнікне новы жыллёвы мікрараён. У ім прадугледжаны ўсе выгоды.

Транспартны рух у квартале зводзіцца да мінімума. Праезжая частка будзе аддзелена ад будынкаў на 50—60 метраў. Паміж вуліцамі і жыллёвымі дамамі запланаваны суцэльныя палосы зялёных насаджэнняў.

Добраўпарадкаваныя кварталы белакаменных дамоў узніклі ў раёнах вуліц Волгаградскай, Арлоўскай, камбіната будаўнічых матэрыялаў, аўтамабільнага і трактарнага заводаў. У гэтым годзе звыш 12 тысяч сямей мінчан будуць спраўляць наваселле.

Усё больш пашыраецца аб'ём працы ў будаўніцтве жыллёвых дамоў у Віцебску, Гомелі, Магілёве і іншых гарадах рэспублікі, а таксама на такіх буйнейшых новабудоўлях сямігодкі, як Салігорскі калійны камбінат, Полацкі нафтаперапрацоўчы завод, Бярозаўская ДРЭС.

На Беларусі створана магутная індустрыяльная база для развіцця жыллёвага будаўніцтва. Ёсць камбінаты домабудавання, вялікія заводы па вырабу зборнага жалезабетона, сучасная тэхніка. Цяпер штодзень толькі за кошт дзяржаўных капіталаўкладанняў у сярэднім здаецца 160 кватэр. Да канца года ў рэспубліцы запланавана здаць у карыстанне паўтара мільёна метраў жыллёвай плошчы. Звыш 50 тысяч сямей справяць наваселле.

На здымку катэджы салігорскіх шахцёраў.



# Польскі гандлёвы флот

Польскія караблі плаваюць рэгулярнымі лініямі да многіх партоў свету і 5-ці мацерыкоў. Пад бела-чырвоным флагам плыве зараз 180 гандлёвых караблёў, разам больш як мільённым тонажам. Гэта амаль што ў 10 разоў больш, чым у 1938 годзе. Польскі флот шпарка развіваецца і да 1970 года танаж яго перакрочыць два мільёны ДВТ.



**Толькі за мінулы год пабудавана ў Югаславіі 1.100 кіламетраў першакласных шасэйных дарог з такімі вось мастамі, як бачым на здымку. Перад вайною былі цэлыя раёны краіны без адной вярсты цвёрдага бруку. Мала таго — у горных правінцыях Босніі і Герцагавіны ніхто не ведаў — не спісваў, колькі жыве людзей. (ся)**

# ВЫПАРЭННЕ НЕТРАЎ

**(АДКРЫТ НЕЗВЫЧАЙНЫ ЦЕПЛАВЫ ЭФЕКТ)**

Для таго, каб перавесці ваду ў пару — выпарыць раствор, высушыць прамоклае адзенне або кавалак мокрай гліны, — трэба затраціць некаторую колькасць энергіі. Выпарэнне — працэс, які ідзе з паглынаннем цяпла. З гэтым мы пастаянна сутыкаемся ў прыродзе, у быце і ў тэхніцы.

Але ці заўсёды гэта так? Аказваецца, ёсць умовы, пры якіх цеплавы эфект выпарэння прама супрацьлеглы: пры асушэнні адбываецца не ахаладжэнне, а разаграванне.

Гэта паказалі даследванні вучоных лабараторыі магматагенных працэсаў Інстытута геахіміі і аналітычнай хіміі Акадэміі навук СССР.

Каб малекулы вады рухаліся хутчэй і адбывалася выпарэнне, патрэбна цеплавая энергія. Малекулы вады, пераходзячы ў пару, запаўняюць значна большы аб'ём, чым яны займалі ў вадкасці. Гэта назіраецца не толькі пры выпарэнні з паверхні, але і пры аддзяленні вады ад крышталагідратаў, складаных раствораў і расплаваў.

Ну, а калі расплаў і вадзяную пару, нагрэтыя да тысячы градусаў, сціснуць з велізарнай сілай, на якую здольны толькі зямныя нетры? Пры гэтым пара і расплаў будуць сціскацца. Аб'ём пары зменшыцца вельмі істотна, а аб'ём расплаву нязначна. Пакуль ціск адносна невялікі, адбываецца ўсё, як звычайна. Аднак пры звышвысокіх ціcках вада, раствораная ў расплаве, аказваецца сціснутай менш, чым пара па-за расплавам. А гэта значыць, што пры асушэнні расплаву адбываецца не павелічэнне ўдзельнага аб'ёму вады, як звычайна, а змяншэнне. Значыць, і энергія пры гэтым будзе не паглынацца, а выдзяляцца.

Дзе могуць існаваць такія ўмовы? Аказваецца, не так ужо далёка, на глыбіні дзесяці - дваццаці кіламетраў, там, дзе ўтвараюцца граніты, зараджаюцца рудныя месцанараджэнні і знаходзяцца ачагі землетрасенняў.

# Пчаліны кажух



**Фройд — старшыня саюза пчалаводаў з Марбіян (Францыя) правёў цікавы вопыт — звабіў (на жаль як не ведаем) пчолы, якія сядзелі на дрэве на свае голыя грудзі. Абсела яго 30 000 гэтых салодкіх і... калючых мушак. І нічога. Усе ў найлепшым ладзе, у згодзе, як бачым на здымку (вл).**




...што ў свеце ёсць дрэва, пад ценем якога адначасова можа адпачыць 7 тысяч чалавек. Гэта фітавае дрэва расце ў Індыі. Яму каля трох тысяч год.

# НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

## Шайка ў... мундзірах

У Злучаных Штатах Паўночнай Амерыкі (ЗША) шырацца злачынствы сярод... паліцыі. Адзін паліцыянт у Лос Анжэлас прызнаўся:

... — каля трох гадзін ночы пад час сваёй патрульнай службы пачуў я сігнал трывогі. Аказалася, хтосьці залез у ювелірны магазін. Дзьеры магазіна былі расчынены, у сярэдзіне поўны балаган. Злодзей накраў многа каштоўнасцей і перапалоханы неспадзяваным сігналам уцёк. Вакол валяліся сапраўдныя скарбы. На вуліцы ні жывой душы. Вядома, увесь тавар у такіх магазінах ёсць застрахаваны. Чаму ж і мне не падабраць што-небудзь?

Гэтакае паліцыянтавае запытанне аж надта характарызуе амерыканскую абыякавасць да прынцыпаў маралі.

У Дэнверы, горадзе ў якім ніколі не было вялікіх зладзейскіх банд, пяцьдзесят пяць паліцыянтаў аказалася ўзломшчыкамі, разбойнікамі. На пачатку 1960 года двух мясцовых паліцыянтаў выехалі аўтамашынаю на патрульную службу па гораду. Раптам заўважылі яны банду ўзломшчыкаў якія грузілі на машыну касу з кавярні. Злачынцы ўбачылі паліцыянтаў і кінуліся ўцякаць. Паліцыянты хутка нагналі банду і адзін з іх, па імені Джон, са здзіўленнем пазнаў бандытаў. Былі гэта яго калегі па службе, такія ж паліцыянты, як і ён сам. Калі Джон склаў рапарт начальнікам, тыя не паверылі яму, падумалі, што Джон звар'яцеў. Аднак лекар сцвердзіў, што Джон цалкам нармальны чалавек. Такім чынам горад Дэнвер даведаўся, што ўласныя паліцыянты таксама крадуць.

Шайка існавала доўга. Утрымоўвалася яна дзякуючы падрабязна апрацоўваным планам нападаў. Яе ініцыятарам быў адзін пастарунковы, які пад час сваёй службы прадумаў дакладны план грабяжу вялікага гандлёвага дома. План падабаўся давераным сябрам. Паліцыянт, які адбываў патрульную службу непадалёку гэтага дома павінен быў перасцерагчы іх ад небяспекі. Крыху далей ад яго, у аўтамашыне, знаходзіўся другі паліцыянт. Трэці наглядаў за вуліцай з акон гандлёвага дома, а двух іншых паліцыянтаў адчыняла цяжкую касу. Напад удаўся, зарабілі 40 тыс. долараў у валюце і 25 тыс. долараў у чэках.

Шайка разрасталася. Рабункі праводзілі вольныя ад службы члены паліцэйскай шайкі. На месца нападу давозілі іх паліцэйскімі аўтамашынамі іншыя сябры, якія знаходзіліся ў той час на службе і маглі «адкрыта» перасцерагчы ад небяспекі працавітых рабаўнікоў. І, так, паліцыянты, што ўначы разграбілі нейкі магазін, раніцаю ішлі на службу, прымалі паведамленні аб начным нападзе і праводзілі следства. Пры аказіі ліквідавалі ўсякія неасцярожна пакінутыя сляды, знакі, якія б маглі выдаць іх.

Дэнверская гісторыя з паліцыянтамі - узломшчыкамі не з'яўляецца рэдкасцю ў жыцці ЗША. Напрыклад, у Чыкага выкрыта вялікую групу паліцыянтаў, якія супольна са зладзейскімі бандамі грабілі ювелірныя магазіны, і г.д.

Адзін з паліцыянтаў - ўзломшчыкаў заявіў, што яго малыя заробкі не былі найважнейшай прычынай робленых злачынстваў.

Галоўная прычына значна глыбейшая і нельга шукаць яе ані ў малых заробках паліцыянтаў, ані нават у спакусах з якімі сустракаецца паліцыянт пад час сваёй службы, у час барацьбы са зладзействам. Прычына ў тым, што ў грамадстве агорнутым пастаяннай гонкай за доларам знікаюць границы паміж сумленнасцю і зладзействам. Людзі перастаюць шанаваць сваю асабістую годнасць, гонар, — адказнасць перад людзьмі, грамадскасцю ўвогуле. Меркай вартасці чалавека ёсць тут грошы, багацце!.

а-ся

**Народ Анголы змагаецца супроць партугальскіх каланізатараў. На здымку бачым ангалезскага партызана ў засадзе. (ся)**





 

## КУР'ЁЗЫ

### ЯНА НЕ ВЕДАЛА

«Калі я выходзіла замуж за Шарля дэ Голя, я не ведала, што выходжу замуж за Францыю», — сказала мадам дэ Голь.

Аказваецца, самаўзвышэнне мужа перадаецца жонцы.

## Усмешкі

З такою сілай апіраўся на калектыў, што калектыў стагнаў.




## У ШЛЮБНЫМ ПАДАРОЖЖЫ

Маладажоны паехалі на адпачынак. Маладая жонка, звяртаючыся да свайго маладога мужа, гаворыць:

— Не ведаю, што б такое зрабіць, каб усе думалі, што мы ўжо даўно жанаты.

Малады муж падумаў крыху і кажа:

— Гэта не цяжка, толькі сумняваюся, ці патрапіш ты данесці чатыры чамаданы.

## Што каму

— Скажы, сын, які прадмет табе найбольш падабаецца ў школе?

— Званок.





## ПРЫКМЕТЫ

Не шыхавала сёння Сымону. Устаў ён чуць свет. Трэба на кірмаш з'ездзіць. Яблык у садзе хоць адбаўляй. Нездарма ён праводзіў у гэтым годзе апрысківанне супроць шкоднікаў. Аплацілася. Вось прадасць яблычкі і будзе свежая капейка ў хаце.

Толькі ён выйшаў на двор каня запрагаць, як сустрэў суседку, якая, грымячы пустымі вёдрамі, ішла па ваду.

— А каб цябе трасца, — замармытаў Сымон пад носам. Быць сёння бядзе. І трэба ж гэта, каб старая карга мяне якраз у кірмашны дзень з пустым вядром спаткала.

Аж сплюнуў са злосці.

Аднак, хоць і не ў вясёлым настроі, паехаў на кірмаш.

Не паспеў выехаць за вёску, калі, скуль не вазьміся — чмых і чорны кот перабег дарогу перад самым канём.

Панурыў Сымон галаву. Вось ліха. Будзе бяда. І не малая. І баба з пустым вядром, і кот, ды яшчэ чорны, каб яго мышы загрызлі, хоць ты назад дамоў вяртайся. Едзе і думае: ну і навошта ж я на той кірмаш пруся? Напэўна сёння ў мяне нічога не купяць і давядзецца тавар назад везці. Пасля такіх прыкмет?..

На кірмашы аднак усе чамусьці ля ягонай фурманкі таўкліся. Ці таму, што ў яго яблыкі прыгажэйшыя, чым у другіх, ці так чаго? Не паспеў аглянуцца, як усе прадаў і грошай узяў за іх столькі, што аж дзіва. Тут Сымон ужо сапраўды спалохаўся. Бачыць, жартаў няма. Тут звычайнаю бядою не абыдзецца. Нездарма кот быў чорны.

«Пэўна грошы ў мяне ўкрадуць, — думае, — аж страх дамоў вяртацца».

Едзе, за кішэню трымаецца, аглядаецца наўкола.

Але дзе там! Ці міліцыя ўсіх зладзеяў пералавіла, ці ў іх сёння нейкае свята і не працуюць? Ніхто на ягоныя грошы не зарыцца. Проста жудасна. Цяпер ужо чорт ведае што здарыцца можа.

А здарыцца нешта ж мусіць. Прыкметы правераны.

Проста сам не свой заехаў Сымон пад гасподу. Заказаў сто грамаў, селядца, піва. Сядзіць, думае, што гэта яго чакае.

Няма горш, як няведамай бяды чакаць. За першай чаркай пайшла другая, за другой — трэцяя, чацвертая. Адно піва, другое... У галаве шуміць, і думкі ў ёй усё чарнейшыя круцяцца.

Заплакаў Сымон над горкім сваім лёсам і, ледзь трымаючыся на нагах, пайшоў да фурманкі.

Едзе да хаты і плача:

— Навошта ж ты мяне, маці, на свет радзіла? Еду і сам не ведаю якой бядзе насустрач.

Заснуў урэшце п'яны Сымон на возе, разумнае каніска самое брыдзе дахаты.

Да вёскі ўжо даехалі, першыя хаты мінаюць, раптам насустрач выскачыў з-за павароту аўтамабіль. Перапалоханы конь шарахнуўся ўбок, воз перавярнуўся, а п'яненькі Сымон, праляцеўшы пару метраў у паветры, трэснуўся галавою ў плот.

Сабраліся на другі дзень у Сымонавай хаце суседзі. Сядзіць ён, небарака, у ложку, на лобе гуля з курынае яйцо, нос расквашаны. Расказвае пра свае прыгоды.

Ківаюць галовамі дзядзькі і цёткі. Няма што. Пасля такіх дрэнных прыкмет і так яшчэ танна выкруціўся.

Вось і не вер тут, чалавеча, у прыкметы.

**ЮРКА ГЕНІЮШ**

## Лізавета Хведараўна

Дырэктар школы ў перапынку паміж урокамі абыходзіў класы, цікавіўся парадкам, чысцінёй у памяшканнях. Зайшоў ён і ў пяты «А». Класная настаўніца Лізавета Хведараўна лавіла кожны яго рух. Як толькі дырэктар паварочваўся ці рабіў крок, яна ліслліва ўсміхалася і паўтарала:

— Калі ласка, калі ласка...

Дырэктар глянуў на дошку, на парты, падыйшоў да падаконніка, пастаяў хвілінку, варушачы брывамі, і сказаў:

— Бруднавата. Парты трэба мыць, падаконнікі... Дошка нячыстая...

Лізавета Хведараўна, быццам яна вельмі чакала гэтых дырэктаравых слоў, заспяшалася:

— Правільна, правільна, Іван Аляксандравіч... Так, бруднавата, — і ўжо, звяртаючыся да школьнікаў, дакарала: — Я ж вам гаварыла, я ж гаварыла вам... Чаму вы не зрабілі?

Калі дырэктар выйшаў, адна дзяўчынка сказала:

— Лізавета Хведараўна, у нас жа чыста, мы ж сёння мылі і парты, і падаконнікі...

Настаўніца паціснула плячыма:

— Мылі, ці не мылі, а калі дырэктар гаворыць, што брудна, значыць, брудна...



Ёсць людзі, якія толькі ў цяні выглядаюць у выгадным святле.

### ЖЫВУЦЬ, ЯК ГАЛУБЫ

— Я чуў, твае суседзі жывуць, як два галубы.

— Так, то адзін вылятае праз акно, то другі.



— Ты ж ведаеш, што нельга ў час асенніх ветраў лётаць так нізка!

### ЧАМУ ПАВЫСІЛА

Кватарант апошняга паверха скардзіўся гаспадыні:

— Чаму вы павысілі мне плату, я ж жыву ў гэтым няшчасным пакойчыку на апошнім паверсе?

— Але, дарагі, вы найбольш за ўсіх карыстаецеся лесвіцай.

### ПАДАБЕНСТВА

Я бачыў на панадворку твайго сына. Ён падобны на старажытнагрэцкую статую.

— Ты маеш на думцы яго мускулы?

— Не, яго разбіты нос.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

По просьбе Ніны Вакулы з Меляшкоў, Беластоцкага павета, змяшчаем савецкую папулярную песню

## Люблю тебя, мой край родной



Люблю тебя, мой край родной.
Всегда мне дорог ты,
Всегда мне дорог ты!
Твоею скромной красотой
Полны мои мечты!

Зовет меня тенистый сад,
И над речной волной
Шумит камыш густой.
Здесь юности прошли года,
Здесь мы росли с тобой.

Березка наша так стройна,
В тени ее ветвей,
В тени ее ветвей
Не замечала нас луна,
И пел нам соловей.

Здесь в первый раз решился я
Тебя назвать своей,
Тебя назвать своей.
Ты счастье в жизнь мне принесла
И радость светлых дней.

Люблю тебя, мой край родной!
Всегда мне дорог ты,
Всегда мне дорог ты!
Твоею скромной красотой
Полны мои мечты! (2 раза)

### ЭПІГРАМЫ

## Сябру

Вядзеш ты гутарку мядовую,
А я у думках уюнню:
Якую новую, чарговую
Падложыш хутка мне свінню?

Юрка Зубрыцкі



Палітэхнічнае выхаванне.

### КАЛІ СПАЎНЯЮЦЦА МАРЫ

— Пятро Хведаравіч, ці споўнілася хоць адна ваша дзіцячая мара?

— Споўнілася! Калі мяне ў дзяцінстве цягалі за валасы, я вельмі марыў стаць лысым!

### ЦЯГНІК ВЯРНУЎСЯ

Маленькі Шурык праводзіць з татам сваю маці. Ён махае рукою, пакуль з процілеглага боку рухаецца скоры цягнік. Шурык паказвае тату:

— Глядзі, цягнік вяртаецца. Маці, мабыць, зноў штосьці забыла.